# «МОЙ СВЕЦЕ ЯСНЫ...»

*Міхасю СТРАЛЬЦОВУ — 50 гадоў*

Летам тут зелена і жоўта — трава, жытнёвыя палі, лёгкі, лістотны пошум. А зараз — белая, сцюдзёная цішыня. Ясната. І густы, марозны настой чакання. І роздуму. Як быццам на імгненне нейкая высокая светлая існасць набыла фарбы і форму, разлілася шырокай беллю і абрала сабе месца тут, на гэтай празрыстай прасторы, што не ведае недамоўленасці, паўтонаў і размытасцей. Празрыстая віднасць. Віднасць прастаты. Той прастаты і нязмушанасці, якія ўласцівы прыродзе. Той высокай прастаты, якою надзяляе прырода абраннікаў сваіх. Даючы талент іх пяру, далучаючы да галоўнай мудрасці сваёй—арганічнага адчування меры рэчаў, разумення каштоўнасці ўсяго існага на зямлі.

Пазначаны такім талентам і ён, Міхась Стральцоў. Чалавек гэтай канкрэтнай зямлі, якую мецяць на картах як вёску Сычын на Слаўгарадчыне ў Магілёўскай вобласці.

З'явіўся Міхась Стральцоў на гэтай зямлі 50 гадоў назад у сям'і настаўніка, у хаце на ўскрайку вёскі. Каля хаты ганарліва наструнціліся бярозы, у галінах іх, здаецца, і дагэтуль гуляе вецер маладой Стральцоўскай мары. Так называўся першы зборнік Міхася Стральцова — «Блакітны вецер». Тую ж назву мела і адно з апавяданняў яго.

Пяцьдзесят... Дата. А трыццаць гадоў мінулася з часу апублікавання першага апавядання.

...Зімовы дзень ужо ўзyўся на добры полудзень. Мароз халодзіць-гарачыць. Сонца спакойна-ветліва пазірае са свайго далёка. Гэтымі сцежкамі кожнага дня некалі хадзіў маленькі Міхась Стральцоў. Уваходзіў у той свет ясны, што адкрыў для сябе, а пазней — для чытачоў. Пра што ён думае сёння? Дарослы, сталы Міхась Стральцоў? Можа, пра нешта блізкае да таго, што згадваў яго герой з «Сена на асфальце»? «І дагэтуль да самых малых драбніц помню я дарогі, па якіх мы хадзілі ў школу.

Як назваць нам тыя гады? Былі яны трудныя, бедныя, але не паўторацца: там, у звычайнай пасляваеннай вёсцы, пачыналіся з табою мы. Памятаеш, як зачытваліся мы Тургеневым, Чарнышэўскім, памятаеш, якую ўладу мелі над намі Рахметаў, Базараў? Не ведаю, як можна назваць гэтую пастаянную напружанасць душы, гэты парыў да самаахвярнасці, да радасці і нават да тугі — і гэта было, і я думаю цяпер: якія мы былі шчаслівыя, як многа было ў нас наперадзе, якое вялікае, таямнічае жыццё чакала наперадзе нас!»

Чалавекам гэтым здзейснена многае. Паэт. Празаік. Крытык. Эсэіст. Міхась Стральцоў ва ўсім, што б ён ні пісаў, філосаф і паэт. У адрозненне ад большасці беларускіх пісьменнікаў, што вядуць гаворку ў творчасці сваёй пра сваю «малую радзіму» (А. Куляшоў — пра Бесядзь, Янка Брыль — пра Навагрудчыну, Р. Барадулін — пра Ушаччыну), Міхась Стральцоў амаль ніколі канкрэтна не пазначае г[illegible] каардынаты. Хіба ў некалькіх вершах. Але каардынаты гэтыя заўсёды прысутнічаюць у



яго творчасці. Адтуль — любоў да ўсяго на зямлі, адтуль — успамін пра «імглістую, зажураную смугу» ў полі, пра «жаўтлява-светлую саломінку, вытыркнутую са страхі», пра зімовы дзень, калі «зыркае сонца і белая вуліца», «грае, пераліваецца ў небе сонца, пара дымнымі слупамі стаіць над стрэхамі хат». Адтуль — і героі яго апавяданняў «На чацвёртым годзе вайны», «Восеньскі ўспамін», паэтычнай і чалавечнай аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь». Адтуль і тэма яго апавядання «Сена на асфальце» — «прымірыць горад і вёску ў душы...», вобразна асэнсаваны роздум пра многіх і многіх, што па розных прычынах прыехалі з вёскі ў горад. Тэма, што не страціла сваёй сацыяльнай важкасці і сёння, але, здаецца, нягледзячы на шматлікія літаратурныя спробы ў гэтым напрамку, так і не атрымала ў беларускай літаратуры больш выяўленага мастацкага ўвасаблення, чым у Міхася Стральцова.

Як ніхто, на маю думку, ён змог пранікліва, па-філасофску глыбока сказаць пра Максіма Багдановіча. «Загадка Багдановіча» — лірыка-філасофскае эсэ, роздум пра феномен Багдановіча, пра лёс мастака і народа, таямніцу мастака ўвогуле.

Псіхалагічная экспрэсія, высокае майстэрства пісьма — усё гэта прыцягнула да Міхася Стральцова ўвагу чытачоў. У тым ліку чытачоў дасведчаных, з выхаваным густам, якім падабаецца пэўны псіхалагічны рытм пісьма Стральцова, дысцыпліна цвёрдай літаратурнай формы. Ва ўсіх жанрах. Ці гэта будзе эсэ «Дзень у шэсцьдзесят сутак». Ці вершы, сабраныя ў кнігах паэзіі: «Ядлоўцавы куст», «Цень ад вясла», «Мой свеце ясны...». Ці крытычная яго проза, што ўвайшла ў кнігі «Жыццё ў слове», «У полі зроку», «Пячатка майстра». Апошняя назва сімвалічная. Пячаткай майстра пазначаны ўсе яго працы. Пісьменнік імкнецца практычна і тэарэтычна прытрымлівацца выснаванай пазіцыі — браць сабе за мэту пісаць на ўзроўні сусветнай літаратуры; па вышыні думкі, «здатнасці разумець мастацтва як сацыяльную, культурную і нацыянальную з'яву адначасова», па сталасці і дасканаласці мастацкіх сродкаў. Трымаецца той творчай лініі ў беларускай літаратуры, што пазначана імёнамі Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Янкі Брыля, Васіля Быкава. Строгасць, лаканічнасць пісьма. Не эпічная разнастайнасць і шматграннасць, не шматаблічнасць характарыстык і характараў, а згушчанасць лірыка-філасофскага зместу. Асобая слоўная структура, мелодыка паэтычнай і празаічнай фразы. Асобы свет творчасці Міхася Стральцова. Тое, пра што ён гаворыць: «Мой свеце ясны...».

Заўсёды тонка адчувае Міхась Стральцоў паэтычны змест твораў, ніколі не спакушаецца псеўдапафасам, ні таннай патэтыкай. Ведае цану іроніі і самаіроніі. І перад новай старонкай зноў пацвердзіць «саюз паэзіі і прозы». І ў такім выяўленні, як пераклад, Міхась Стральцоў таксама майстар. Нікалас Гільен, Чынгіз Айтматаў, рускія, украінскія, італьянскія, іспанскія, лацінаамерыканскія паэты. Апошнім часам — «абраннік сонечнага Феба», Аляксандр Сяргеевіч Пушкін.

Самога Міхася Стральцова таксама перакладаюць. На многія мовы. Пакуль што перакладзены ён на дзевяць моў. Мабыць, апошняе па часе выданне — анталогія беларускага апавядання, што выйшла ў Маскве, у выдавецтве «Радуга». Названа гэта анталогія па апавяданні Стральцова «Смаленне вепрука» і пачынаецца з яго.

Далёкасяглыя дыяпазон думкі, шырокая эрудыцыя, глыбокая дасведчанасць у літаратуры і мастацтве — усё гэта адчуваецца ў створаным Міхасём Стральцовым. Логіка думкі і падначаленая ёй, але вольная ў сваёй раскаванасці фантазія, энергія пачуцця, чалавечая спагада, якая не апускаецца да змізарнелага спачування, а імкнецца да творчага, мастацкага спасціжэння, асэнсавання чалавечай свядомасці. Тонка адчувае свет чалавечай душы. Як пісьменнік і чалавек.

Як яго маці, што займалася звычайнай вясковай працай жанчыны: гаспадарка, дзеці... Але ж як яна ўмее тонка, ненадакучліва разумець людзей. І ўласнага сына таксама. Яна проста, з адчуваннем уласнай годнасці, але і з непадробным даверам гаворыць: «Так, я заўсёды лічыла, што мой сын будзе нейкім літаратарам. Ён яшчэ не ўсе словы добра гаварыў, а ўсё ў рыфму. Валакаў з этажэркі бацькавы кніжкі... Ён рана і чытаць пачаў. Яму было пяць гадоў». Разумела. І бацька разумеў. Але не прыспешвалі падзеі. Не прымушалі і не пярэчылі. Хай малы чалавек расце і вырашае сам. І ён вырашыў. Свой лёс. Свае права. Вымераў свае суадносіны са светам. Малым і вялікім. Дзе «віруе жыццё, і нараджаецца ў ім прыгажосць. Жывое паэзія. І вечна свеціць нам і вабіць сваёй загадкай».

**Ала СЯМЁНАВА.**

# З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**Адной з падзей культурнага жыцця сталіцы мінулага месяца стала выстаўка твораў Мікалая Байрачнага і Валянціна Прыешкіна. Яна працавала ў выставачнай зале рэспубліканскага Дома мастацтваў і выклікала цікавасць гледачоў. Наведвальнікі змаглі ўбачыць на ёй вельмі арыгінальныя кампазіцыі, выкананыя аўтарамі з гліны і шамоту.**

**М. Байрачнага і В. Прыешкіна ўжо ведаюць па некаторых сумесных працах — яны афармілі адну з залаў Белдзяржфілармоніі, гасцініцу «Планета» ў Мінску, аптэку ў Барысаве... Да гэтай сваёй выстаўкі яны рыхтаваліся, па сутнасці, усе дзесяць год, што прайшлі пасля скančэння імі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.**

**Многа эксперыментавалі, шукалі свой стыль, мову, на якой можна размаўляць з гледачамі пра складаныя праблемы сучаснага жыцця.**

**Што цікавіць, хвалюе маладых мастакоў сёння! Праблемы духоўнага станаўлення чалавека, пошук ім свайго месца ў жыцці. Сум па страчанай гармоніі адносін паміж людзьмі з'яўляецца галоўным лейтматывам кампазіцый М. Байрачнага «Сентыментальная гісторыя» і «Размова за кубкам кавы». Тэма адносін маладога пакалення да культурнай спадчыны распрацоўваецца гэтым мастаком у такіх творах, як «Мастацкая Дрэздэна» і «Камяні не маўчаць». У гэтых работах выразна акрэслена грамадзянская пазіцыя аўтара, непрыхаваны яго ўласны боль і трывога за будучыню чалавецтва.**

**Мінулае, будучыня, памяць — адпраўныя кропкі ў творчасці абодвух мастакоў.**

**— Гісторыя настойліва патрабуе ад чалавека адказнасці за свае дзеянні,— кажа В. Прыешкін.— Чалавек без памяці — гэта сухое семя, якое не дасць ужо, вобразна кажучы, добрых пладоў. І мне вельмі хацелася б завастрыць увагу людзей на гэтым моманце. Бо ў наш час некаторыя «цывілізаваныя» з лёгкасцю адмаўляюцца ад усяго, што іх звязвае з мінулым, з продкамі, з зямлёй і прыродай. Ігнаруючы ўсе гэтыя адвечныя сувязі, яны губляюць сваю душу і разам з ёю будучыню.**

**На выстаўцы мастак паказаў невялікую скульптуру Дзедала, героя легенды, што зрабіў крылы, каб узняцца над зямлёй. Фігура чалавека прыкавана да зямлі жорсткай металічнай канструкцыяй. В. Прыешкін спалучыў кераміку і метал, каб падкрэсліць бездапаможнасць маленькай постаці старога чалавека, які нясе адказнасць за гібель свайго сына Ікара, што на крылах, зробленых бацькам, хацеў дасягнуць сонца. Гэта гісторыя не скончылася і, як многае іншае, мае працяг у часе.**

**Актуальны, антываенны характар набываюць керамічныя пано Валянціна Прыешкіна «Палігон» і «Лісты блакнота». У першым з іх ён стварае прывід знішчэння, бесчалавечнасці. Антытэзай гэтаму ўспрымаецца пласт «Лісты блакнота» — сапраўдны гімн жыццю і каханню.**

**— Я лічу, што сродкамі керамікі можна гаварыць пра ўсе праблемы, якія паўстаюць перад сучасным чалавекам. Сёння ў керамічных творах увасабляюць такія складаныя паняцці, як рух, час, прастора, — гаворыць М. Байрачны. — У традыцыйнага матэрыялу вельмі вялікія магчымасці.**

**— А павярыць трэба было не толькі ў матэрыял,— дадае Валянцін Прыешкін,—але і ў самых сябе. І мы падтрымліваем адзін аднаго ў гэтым. Мы разам вучыліся на адным факультэце. І нам пашанцавала, што студэнцкае сяброўства працягваецца. Яно дапамагло стаць мастакамі, не разгубіцца, знайсці свой шлях.**

**М. Байрачны і В. Прыешкін падышлі да мяжы, за якой — сталасць. Яны ўваходзяць у гэты ўзрост майстрамі з вялікімі творчымі планамі. І верыш, што лепшыя іх працы — наперадзе.**

**Л. САЛОДКІНА.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы В. ПРЫЕШКІНА і М. БАЙРАЧНАГА. Дэкаратыўная скульптура ў мінскім кафэ «Батлейка»; дэкаратыўны рэльеф у кафэ «Бярэзіна» горада Барысава; скульптура «Запрашэнне».**





## У МІНСКУ АДКРЫЎСЯ ГАРАДСКІ КЛУБ АКВАРЫУМІСТАЎ «ТРЫТОН»

# ПРЫПЛЫЛА ЗАЛАТАЯ РЫБКА...

Прыплыла залатая рыбка, спытала: «Чаго табе, стары, патрэбна?» Прыблізна так адбывалася ў любімай дзятвой і дарослымі казцы Пушкіна. Усе просьбы беднага рыбака, жаданні яго сквапнай і злой жонкі выконвала марская чараўніца. А вось у жыцці атрымліваецца наадварот: чалавек імкнецца дагадзіць залатой рыбцы...

— Вось тут яны ў нас і жывуць, залатыя рыбкі,— Міхаіл Асташонак, дырэктар мінскага гарадскога клуба акварыумістаў «Трытон», падвёў мяне да наступнага зашклёнага воднага царства. — Разводзіць іх, і наогул усіх дэкаратыўных рыб,— справа толькі на першы погляд нескладаная: здаецца, наліў у вялікую пасудзіну вады, выпусціў туды рыбак, сыпнуў якіх-небудзь крошак, каб не сканалі з голаду,— любуйся. Калі б жа ўсё так проста было! Зараз, напрыклад, мы для клуба купілі адных толькі кампрэсараў, больш чым на тысячу рублёў.

— Дзе ж вы ўзялі гэтыя грошы, дарэчы, немалыя?

— Іх выдзеліла вытворчае аб'яднанне «Гарызонт», на якім нарадзіўся клуб і да якога мы і належым самым непасрэдным чынам.

Усё пачалося з таго, што на прадпрыемстве вырашылі рэканструяваць рабочую сталовую. Захацелі зрабіць яе прыгожай, утульнай, дзе можна не толькі паабедаць, але і адпачыць. Дзеля такой атмасферы патрэбны адпаведны інтэр'ер. Асаблівую ролю ў ім адвялі вялікім вокнам-вітражам, якія афарміла вядомая беларуская мастачка Нэлі Шчасная. На вітражах — выявы птушак, раслін. Чым бы яшчэ іх дапоўніць? І тады механік аб'яднання Міхаіл Асташонак прапанаваў паставіць вялікія акварыумы з дэкаратыўнымі рыбкамі. Нават абгрунтаваў сваю прапанову з медыцынскага пункту гледжання: назіранне за рыбкамі, што павольна плаваюць у вадзе сярод водарасцяў, не толькі супакойвае чалавека, здымае псіхалагічнае напружанне, але і калі ў каго ціск раптам «падскочыць», дапаможа паменшыць яго.

Адміністрацыя «Гарызонта», прафсаюзны камітэт ідэю падтрымалі, знайшліся і добраахвотныя памочнікі ў такой цікавай справе, бо высветлілася, што многія рабочыя маюць невялікія хатнія акварыумы. У сталовай аб'яднання агульнымі намаганнямі стварылі шэсць, пад кожным з вітражоў, вялікіх акварыумаў. Так нарадзіўся клуб «Трытон». Сёння ўзрост яго членаў неабмежаваны — ад малодшых школьнікаў да пенсіянераў: у клубе больш за трыста чалавек. Сярод «старэйшын», мабыць, самы паважаны Міхаіл Гвоздзік, якому ідзе ўжо дзявяты дзесятак.

Дзіма Салаш — школьнік, вучань восьмага класа. Але захопленасці справай, нават самаадданасці яму, як і Міхаілу Васільевічу, не займаць.

— Пра клуб мне расказала мама, — гаворыць Дзіма. — Яна працуе ў аб'яднанні і, калі даведалася пра «Трытон», параіла пайсці сюды. Дома ў нас таксама ёсць акварыум, я быў яшчэ першакласнікам, калі ў мяне з'явіліся рыбкі.

Цяпер Дзіма ўжо сур'ёзны акварыуміст. Тут, у клубе, ён знайшоў новых сяброў, таварышаў па захапленню, тут можа атрымаць кваліфікаваную параду, а, калі трэба — і практычную дапамогу. Дарэчы, Дзіму Салаша я ўбачыла, калі ён разам з іншымі такімі ж падлеткамі ў вучэбным класе клуба праглядалі спецыяльную літаратуру па рыбаводству, іхтыялогіі...

Гарадскому клубу «Трытон» — пакуль што толькі адзін год, ён з тых аматарскіх аб'яднанняў, што з'явіліся ў Мінску нядаўна. Апошнім часам у рэспубліцы ўсё больш увагі надаецца арганізацыі разнастайнага і цікавага адпачынку працоўных, моладзі, дзяцей. Як ніколі часта, газеты застракацелі інфармацыямі аб адкрыцці ўсё новых і новых спартыўных секцый і груп, гурткоў мастацкай самадзейнасці ці такіх вось, як «Трытон», клубаў па інтарэсах. Савецкія людзі маюць дастаткова вольнага ад працы часу. Даць магчымасць кожнаму з карысцю і цікава праводзіць яго — сёння адна з галоўных сацыяльных задач грамадства.

Зразумела, што ў такіх умовах клуб акварыумістаў адразу атрымаў і грамадскае прызнанне, і неабходную матэрыяльную падтрымку. Яму выдзелілі часовае памяшканне ў адным з дамоў у цэнтры горада, месяц назад быў зацверджаны штат клуба, ствараюцца гурткі, якія зоймуцца мастацкім афармленнем акварыумаў, вырошчваннем і даследаваннем вадзяных раслін, тэрарыумамі, абсталёўваецца біяхімічная лабараторыя, будзе фотасекцыя... Некаторыя з задумак ужо пачалі здзяйсняцца (напрыклад, біяхімічная лабараторыя), некаторыя пакуль што ў перспектыве (фотасекцыя). Пабыўшы ў клубе, пазнаёміўшыся з яго членамі, кіраўнікамі, пераконваешся: усе планы тут стануць рэальнасцю. Інакш навошта, пакінуўшы ранейшае месца работы, перайшлі б у «Трытон» архітэктар, дызайнер Сяргей Лазавой, былы навуковы супрацоўнік, біёлаг, педагог па адукацыі Міхаіл Скараход, колішні супрацоўнік заапарка, іхтыёлаг Васіль Еўчанка?

— Разводзіць рыбак у акварыумах ці трымаць яшчарак — не самамэта, — лічыць Міхаіл Скараход. — Для нас галоўнае — навучыць людзей, і асабліва моладзь, дзяцей, жыць побач з прыродай, а ў прыродзе, адчуваць, разумець і любіць яе. І тады чалавек хутчэй пачне ўсведамляць сваю асабістую адказнасць за той свет, у якім ён жыве, які павінен пакінуць у спадчыну нашчадкам.



Мінскім гарвыканкомам практычна вырашана пытанне аб прадастаўленні клубу «Трытон» новага памяшкання. Грошы на абсталяванне, неабходнае будаўніцтва выдзяляюць дзве арганізацыі — вытворчае аб'яднанне «Гарызонт» і Рэспубліканскае таварыства аховы прыроды. У новым Доме акварыумістаў (назва, зразумела, пакуль умоўная) плануецца вялікі выставачны павільён, які змогуць наведваць усе жадаючыя, кіназала, пакоі для заняткаў секцый.

...Падплыла залатая рыбка да самага шкла і, здаецца, уважліва паглядзела на тых, хто быў па той бок ад яе: маўляў, чаго ж вам трэба? У адказ шасцігадовы хлапчук яшчэ бліжэй падсунуўся да акварыума, носам амаль дакрануўся да яго сценкі. Няйначай вырашыў даверыць рыбцы сваё запаветнае жаданне...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**НА ЗДЫМКАХ: дырэктар клуба «Трытон» М. АСТАШОНАК (другі злева) з супрацоўнікамі; кіраўнік гуртка гідрабіялогіі М. СКАРАХОД і вучань 10 класа А. РАСІНСКІ праводзяць аналіз жорсткасці вады; у зоне адпачынку вытворчага аб'яднання «Гарызонт».**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## СПОРТ

«У штаб-кватэру ФІЛА я прадстаўлю самы пахвальны водзыў. Арганізацыя васемнаццатага міжнароднага турніру па вольнай барацьбе на прыз Аляксандра Мядзведзя ў Мінску была выдатная».

Гэтыя словы належаць старшыні Міжнароднай федэрацыі барацьбы фіну Ласі Тойвала. Яго падтрымалі і многія прадстаўнікі каманд, што ўдзельнічалі ў спаборніцтвах.

А цяпер аб чыста спартыўным боку турніру. Найбольшую колькасць узнагарод заваявалі савецкія барцы. Як заўсёды, добра выступалі беларускія спартсмены: 2 залатыя, 2 сярэбраныя і 2 бронзавыя медалі. Пераможцамі сталі Камалутдзін Абдулдаудаў і Віктар Крэйдзіч.

На чэмпіянат свету па ручному мячу ў Італію зборная Савецкага Саюза адправілася ў значна абноўленым складзе. Касцяк каманды склалі беларускія гандбалісты. І амаль у кожнай гульні менавіта яны называліся лепшымі гракамі. Гэта Аляксандр Каршакевіч, Юрый Шаўцоў, Георгій Свірыдзенка і Аляксандр Тучкін.

Зборная каманда СССР перамагла ўсіх сваіх сапернікаў і заняла першае месца і адначасова заваявала пуцёўку на Алімпійскія гульні, якія адбудуцца ў 1988 годзе.

Гэта добрая вестка прыйшла з Браціславы. Вялікая група беларускіх спартсменаў удзельнічала тут у складзе каманды Савецкага Саюза ў чэмпіянаце Еўропы па стральбе з пнеўматычнай зброі. Прадстаўнікі нашай рэспублікі заваявалі дзесяць залатых медалёў! Па дзве вышэйшыя ўзнагароды дасталіся Ігару Басінскаму і Лаліце Цвятковай. Юніёрка Галіна Чуркіна ўстанавіла на гэтых спаборніцтвах рэкорд кантынента.

А на зімнім першынстве Еўропы па лёгкай атлетыцы, якое прайшло ў Францыі, залаты медаль заваявала мінчанка Наталля Дзмітрычэнка. Яна была мацнейшай у спартыўнай хадзьбе на 3000 метраў.

Заканчваецца зімовы сезон. І завяршаюць яго беларускія спартсмены, калі так можна сказаць, на мажорнай ноце. На Спартакіядзе дружалюбных армій сярод моцных лыжнікаў віцябчанін Васіль Гарбачоў стаў другім прызёрам на 30-кіламетровай дыстанцыі. У адборачным турніры хакеісты мінскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства заваявалі права ўдзельнічаць у першынстве краіны...

## ЗНАХОДКІ З БЕРАГОЎ ДЗВІНЫ

Падобна да «стараццеляў», якія здабываюць крупінкі каштоўнага металу ў прыбярэжным рачным пяску, шукаюць унікальныя сведчанні пра быт нашых продкаў на берагах Заходняй Дзвіны супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР.

Члены створанага больш за 10 гадоў назад Заходне-Дзвінскага археалагічнага атрада, вывучаючы рэшткі сярэдневяковага замчышча на адным з астравоў, выявілі многа керамічнага посуду, кафлі з малюнкамі. Непадалёку ад вёскі Мазурына праводзіліся раскопкі на месцы гарадзішча ранняга жалезнага веку, а каля вёскі Прудлікі былі знойдзены рэдкія прадметы, што захаваліся на месцы старажытных паселішчаў. Вучоныя спяшаюцца: мяркуемае будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС можа значна ўзняць узровень вады ў рацэ, і тады бясцэнныя археалагічныя помнікі — ад каменнага веку да сярэдневякоўя будуць ужо недаступныя. Да новага сезона раскопак рыхтуюцца не толькі спецыялісты, але і добраахвотныя іх памочнікі: жыхары райцэнтраў і вёсак, сельскія школьнікі, студэнты.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 374.